ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК 100
№7 (100) ліпень 2019 год
CATHOLICNEWS.BY

# Новы касцёл асвечаны ў Бешанковічах



Стар. 6-7

## Выйшаў 100-ы нумар "Каталіцкага Весніка"



Стар. 11

## Дэкрэты біскупа Алега Буткевіча па персанальных зменах у дыяцэзіі

Стар. 4



Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by

# Зала друку: сустрэча Папы з іерархамі з Украіны – знак блізкасці!



Папа і чальцы Сінода Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы. *Ілюстрацыйнае фота (Vatican Media)*

**По выніках двухдзённага візіту ў Ватыкан кіраўніцтва Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Зала друку Апостальскай Сталіцы абнародавала адмысловае паведамленне.**

У дакуменце прыгадваецца, што 5-6 ліпеня Святы Айцец Францішак узначаліў сустрэчу з Вярхоўным Архіепіскапам, мітрапалітамі, чальцамі Пастаяннага Сіноду Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы і кіраўнікамі кампетэнтных дыкастэрый Рымскай курыі.

Дзякуючы ініцыятыве "Святы Айцец прагнуў выразіць сваю блізкасць да гэтай Усходняй Каталіцкай Царквы sui iuris". Разам са сваімі супрацоўнікамі ён "высока ацаніў гісторыю гэтай Царквы, яе духоўную, літургічную, тэалагічную і кананічную традыцыю, яе вернасць адзінству з Наступнікам св. Пятра, пацверджаную і апячатаную крывёй мучанікаў".

"Аналіз прапанаваных тэм адбыўся ў духу ўзаемнага слухання і суправаджаўся малітвай, шукаючы неабходныя ўмовы для таго, каб забяспечыць развіццё і росквіт гэтай Царквы ў сучасным свеце", – гаворыцца ў камюніке.

Асаблівая ўвага была прысвечана душпастырскай працы, евангелізацыйнаму служэнню, экуменізму, асабліваму пакліканню Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы ў кантэксце сучасных грамадска-палітычных выклікаў, асабліва ва ўмовах вайны і гуманітарнага крызісу ва Украіне, а таксама яе служэння ў розных краінах свету.

Было выказана пажаданне, каб такі спосаб камунікацыі меў працяг у будучыні "з мэтай стварэння неабходных умоў для гарманічнага развіцця Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, а таксама іншых Усходніх Каталіцкіх Цэркваў у іх тоеснасці і місіі".

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Святы Пасад нагадаў пра непарушнасць сакраманту споведзі

**Прымус да парушэння таямніцы споведзі – непрымальны і абмяжоўвае свабоду рэлігіі, гаворыцца ў спецыяльным лісце Святога Пасаду. Ён быў абнародаваны 1 ліпеня 2019 г. у Ватыкане.**

Дакумент пад назвай "Заўвага Апостальскай Пенітэнцыярыі пра важнасць унутранай сферы і непарушнасці таямніцы споведзі" быў апублікаваны за подпісам кардынала Маўра П'ячэнцы – Вялікага Пенітэнцыярыя, і мансеньёра Кшыштафа Нікеля – Рэгента Апостальскай Пенітэнцыярыі. Папа Францішак зацвердзіў дакумент 21 чэрвеня гэтага года.

Прадстаўляючы дакумент, кардынал П'ячэнца заўважыў, што ў сучасным "медыйным" грамадстве развіццю тэхналогій і сродкаў камунікацыі "не спадарожнічае аналагічнае імкненне да пошуку праўды". Мэтай хутчэй з'яўляецца "ліхаманкавае жаданне пашырэння інфармацыі", у тым ліку прыватнай і канфідэнцыяльнай. На яе падставе фарміруецца меркаванне пра людзей, нярэдка ачарняецца іх добрае імя.

Такі распаўсюджаны падыход адбіваецца таксама на Касцёле, ад якога "ў імя меркаванай карэктнасці і празрыстасці" патрабуецца выкарыстанне прынцыпаў, што ўжываюцца ў грамадзянскім праве.



У гэтым кантэксце Апостальская Пенітэнцыярыя лічыць неабходным падкрэсліць "абсалютную непарушнасць таямніцы споведзі", якая "заснавана на Божым законе" і не дапускае выключэнняў. Святар пакліканы бараніць таямніцу споведзі не толькі дзеля захавання "вернасці" пенітэнту, але, у першую чаргу, дзеля павагі да святасці самога сакраманту споведзі.

У дакуменце падкрэсліваецца розніца паміж таямніцай споведзі і прафесійнай таямніцай, якая абавязвае некаторыя катэгорыі людзей – урачоў, журналістаў, адвакатаў. У гэтых выпадках існуюць выключэнні з агульнага правіла захавання таямніцы. У сваю чаргу, таямніца споведзі – гэта "не абавязацельства, навязанае звонку, а неад'емнае патрабаванне сакраманту". Пенітэнт прамаўляе не да спаведніка-чалавека, але да Бога, а прысваенне сабе таго, што ёсць Божае, – блюзнерства.

"Палітычныя дзеянні і заканадаўчыя ініцыятывы, накіраваныя супраць непарушнасці таямніцы споведзі, з'яўляюцца непрымальным нападам на libertas Ecclesiae", – гаворыцца ў дакументе.

У лісце Апостальскай Пенітэнцыярыі разглядаюцца таксама маральна-прававыя аспекты дзейнасці, якая тычыцца ўнутранай сферы чалавека і здзяйсняецца па-за сакрамантам споведзі. Яе класічны прыклад – духоўнае кіраўніцтва. **Кананічнае права прадугледжвае поўную канфідэнцыяльнасць духоўных размоў.** Напрыклад, падчас праверкі кандыдата да прыняцця пасвячэння забаронена пытацца пра якую-небудзь інфармацыю ў спаведнікоў ці духоўных кіраўнікоў.

У апошняй частцы дакумента гаворка ідзе пра іншыя формы таямніцы, якія не датычаць унутранай сферы, але звязаныя з выкананнем служэння. Заўвага пацвярджае прынцып натуральнага права, якое абавязвае захоўваць таямніцу, за выключэннем выпадкаў, калі гэта можа насеці сур'ёзную шкоду людзям і адзіным спосабам не дапусціць гэтага з'яўляецца раскрыццё праўды. У такой сітуацыі трэба кіравацца прынцыпам братэрскай любові, маючы перад сабой дабро і бяспеку іншых людзей, павагу да прыватнага жыцця і супольнага дабра.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Святы Айцец прыняў на аўдыенцыі Прэзідэнта Расіі

**4 ліпеня 2019 г. Папа Францішак прыняў на аўдыенцыі Прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Палітык сустрэўся таксама з кардыналам Дзяржсакратаром Пьетра Паралінам.**



Падчас перамоў бакі пацвердзілі добрыя двухбаковыя адносіны, якія атрымалі далейшае развіццё з падпісаннем пратакола аб узаемаразуменні адносна супрацоўніцтва паміж шпіталем "Bambino Gesu" і педыятрычнымі лякарнямі Расійскай Федэрацыі. Былі закрануты таксама праблемы экалогіі і некаторыя актуальныя пытанні міжнароднага парадку дня, якія датычацца, у прыватнасці, Сірыі, Украіны і Венесуэлы.

Візіт расійскага лідара ў Ватыкан стаў ужо шостым. 5 чэрвеня 2000 г. Уладзіміра Пуціна прымаў на аўдыенцыі св. Ян Павел ІІ. Бакі абмяркоўвалі тады ролю Святога Пасаду і Расіі ў "працэсе інтэграцыі паміж Усходам і Захадам", а таксама "праблему раззбраення і міжнародную сітуацыю", паведамляў тагачасны кіраўнік Залы друку Апостальскай Сталіцы Хаакін Навара-Вальс.

Наступная сустрэча расійскага лідэра з Янам Паўлам ІІ адбылася 5 лістапада 2003 г. Падчас яе гаворка ішла, між іншым, пра сітуацыю расійскіх католікаў і касцельных структур у Расіі. Выказвалася пажаданне добрага развіцця дыялогу паміж Святым Пасадам і Маскоўскім Патрыярхатам, абмяркоўвалася сітуацыя ў Святой Зямлі і Іраку.

13 сакавіка 2007 г. Уладзімір Пуцін быў прыняты на аўдыенцыі Бэнэдыктам XVI. У цэнтры ўвагі былі адносіны паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквой, праблемы, звязаныя з экстрэмізмам і нецярпімасцю.

Першая сустрэча расійскага лідара з Папам Францішкам адбылася 25 лістапада 2013 г. Падчас яе гаворка ішла пра важнасць дасягнення міру на Блізкім Усходзе і пра сітуацыю ў Сірыі. Падкрэслівалася, што неабходна спыніць гвалт, аказаць гуманітарную дапамогу насельніцтву і шукаць мірнае рашэнне канфлікту пры ўдзеле розных этнічных і рэлігійных пластоў грамадства.

Падчас візіту Уладзіміра Пуціна ў Ватыкан 10 чэрвеня 2015 г. абмяркоўваўся, між іншым, канфлікт на Украіне і сітуацыя на Блізкім Усходзе.

21-23 жніўня 2017 г. Расію наведаў з афіцыйным візітам кардынал Дзяржсакратар Пьетра Паралін, які таксама сустракаўся з Уладзімірам Пуцінам.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Біскуп Аляксандр Яшэўскі ўзяў удзел у святкаванні 450-годдзя Люблінскай уніі

**Дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB у якасці прадстаўніка Касцёла ў Беларусі ўзяў удзел у святочных мерапрыемствах у гонар 450-годдзя Люблінскай уніі, якія 29–30 чэрвеня прайшлі ў Варшаве і Любліне (Польшча).**



Беларускі іерарх, які прыбыў на юбілейныя ўрачыстасці па запрашэнні польскіх уладаў, у сваёй прамове асабліва падкрэсліў хрысціянскае вымярэнне гэтай важнай гістарычнай падзеі.

Зазначыўшы напачатку, што сённяшняя Беларусь гістарычна ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай "Двух народаў" (якіх насамрэч у гэтым федэратыўным утварэнні было аб'яднана значна больш), біскуп Яшэўскі запрасіў усіх паразважаць над тым, чаму вучыць сёння гэты вопыт ужо амаль паўтысячагадовай даўніны.

"Люблінская унія паказала, наколькі важнымі з'яўляюцца дыялог і імкненне да адзінства", – падкрэсліў беларускі іерарх.

Аналізуючы ў святле гэтай гістарычнай падзеі сённяшнюю рэчаіснасць, біскуп Аляксандр звярнуў увагу на такія аспекты, як будаванне супольнасці адзінства і партнёрства, заснаванага на рэальным супрацоўніцтве паміж дзяржавамі, на даверы і ўзаемадапамозе; распазнаванне "знакаў часу" і пошук разумных рашэнняў дзеля супольнага дабра з павагай да годнасці кожнага чалавека і народа; клопат пра захаванне культурных і народных традыцый кожнай дзяржавы і адначасовы пошук таго, што аб'ядноўвае, а не падзяляе; падтрымка і развіццё рэлігійнага жыцця, якое з'яўляецца адным з жыццядайных каранёў і спадчынай веры, што спрые развіццю праўды, дабра і любові.

"Люблінская унія "нараджалася" цягам многіх гадоў, у цяжкасцях, перамовах, незадаволенасці, але нарэшце стала фактам аб'яднання і цудоўнага функцыянавання двух аддаленых тэрытарыяльна, шматнацыянальных, полікультурных і шматканфесійных дзяржаваў", – падсумаваў высокі прадстаўнік Касцёла ў Беларусі.

Цэнтральнай часткай святкавання юбілею стала цэлебрацыя святой Імшы ў люблінскім архікатэдральным касцёле святога Яна Хрысціцеля і святога Яна Евангеліста. Пасля Эўхарыстыі яе ўдзельнікі ўсклалі кветкі да помніка Люблінскай уніі на Літоўскай плошчы ў Любліне.

На юбілейных мерапрыемствах былі прадстаўлены ўсе сучасныя дзяржавы, народы якіх аб'ядналіся ў 1569 годзе ў Рэч Паспалітую – унікальнае саюзнае ўтварэнне, што стала сведчаннем імкнення да адзінства ў разнастайнасці на падмурку трывалых хрысціянскіх каштоўнасцяў. Ва ўрачыстасцях у Польшчы ўзялі ўдзел прадстаўнікі Касцёла і парламенцкія дэлегацыі з Беларусі, Літвы і Украіны.

*Catholic.by*
*Фота: sejm.gov.pl*



# Дамініканін з Польшчы ідзе пешшу ў Святую Зямлю

**Айцец Адам Шустак OP – вядомы польскі дамініканін, які вядзе свой блог Langusta na Palmie на канале Youtube са штодзённымі разважаннямі да Божага слова.**

Сам святар кажа пра сябе: "Тры гады з'яўляюся казнадзеем-пілігрымам. У практыцы гэта азначае, што хоць я і належу да кляштара дамініканаў у Лодзі, але маім домам з'яўляецца кожнае месца, дзе знаходжуся, а гэта ў сярэднім кожныя тры дні – іншы, чарговы і часта новы кавалачак свету. Дэвізам майго жыцця ёсць дамініканскае выказванне: абвяшчаць Евангелле ўсім, усюды і рознымі спосабамі".

У канцы красавіка 2019 года, пасля Вялікадня, а. Адам Шустак OP вырушыў у пешую пілігрымку ў Святую Зямлю. "Тры з паловай месяцы маю, каб дайсці да Ерусаліма", – казаў святар. Шматлікія яго слухачы пісалі і пыталіся, якой дарогай пойдзе, каб далучыцца, прайсці хоць нейкую частку шляху разам. Але дамініканін патлумачыў, што "гэта мая пакута, якую я павінен выканаць. Я знікаю. Проста. Не будзе ніякіх відэа ў гэты час. Толькі я і Пан Бог". Святар пастанавіў, "што пойдзе з Кракава ад гроба св. Яцэка, першага дамініканіна, да Гроба Пана Езуса", але дакладна не паведаміў калі выходзіць і якой дарогай пойдзе. "Каб, барані Божа, ніхто да мяне не далучыўся. Зразумейце гэта з павагай", – звярнуўся а. Адам.

18 чэрвеня на старонцы Langusta na Palmie ў Фэйсбуку з'явіўся адзіны запіс ад а. Адама: "Нейкім цудам дайшоў да Рыма. На поўнай петардзе заляцеў у Ватыкан і кажу ім там, што павінен убачыць Францішка. Сустрэўся за некалькі хвілін перад сняданнем, кардынал Конрад мяне падтрымаў і кажа Францішку, што тут ёсць звар'яцелы дамініканін, які павінен яго ўбачыць. Папа ўсміхнуўся і сказаў (сапраўдная гісторыя, не прыдумаў): "Калі звар'яцелы, то напэўна з Польшчы!" Святы Айцец блаславіў пілігрыма і пакорна папрасіў занесці грахі Папы Рымскага да Божага Гроба. "Не маю выйсця, трэба крочыць далей. Заплакаў, як дзіця. Палова за мной, палова перада мной", – напісаў а. Адам і развітаўся да сустрэчы ў жніўні.

*Падрыхтавала*
***Марына Сінкевіч***

# Польшча: 4 млн. 300 тыс. пілігрымаў у Чэнстахове ў 2018 годзе




**"Хрысціянін – гэта homo viator, той, хто заўсёды ў дарозе. Усё наша жыццё – гэта адна вялікая пілігрымка. Мы на шляху да дома Нябеснага Айца. Мы як Касцёл з'яўляемся народам пілігрымаў".**

Пра гэта заявіў Генеральны сакратар Біскупскай канферэнцыі Польшчы манс. Артур Мізінскі на прэс-канферэнцыі, прысвечанай нацыянальнаму пілігрымскаму руху (#PolskaPielgrzymuje). Сустрэча з журналістамі адбылася 11 ліпеня ў рэзідэнцыі Сакратарыята польскіх біскупаў.

Айцец Марэк Томчык OSPPE, кіраўнік 308-й Варшаўскай пілігрымкі, адзначыў, што ў гэтым годзе вернікі адправяцца ў дарогу да Чэнстахоўскай Божай Маці з малітвай пра беатыфікацыю кардынала Стэфана Вышынскага, а таксама з падзякай Богу за першую пілігрымку святога Папы Яна Паўла II роўна 40 гадоў таму ў родную Польшчу і ў гэту знакамітую марыйную святыню.

Айцец Томчык нагадаў, што ў 2018 годзе памаліцца ля цудатворнага абраза Маці Божай Чэнстахоўскай прыехалі 4 мільёны 300 тысяч пілігрымаў з больш чым 80 краін свету. У тым жа годзе ў 200 нацыянальных пілігрымках на Ясну Гуру прынялі ўдзел 834 тысячы вернікаў.

Штогод каля 7 мільёнаў палякаў наведваюць такія месцы, якіх у краіне больш за 500. Найбольш папулярнымі з іх з'яўляюцца марыйныя святыні ў Чэнстахове (69% усіх пілігрымаў) і ў Ліхені. 32% жыхароў краіны заяўляюць, што хоць бы раз у жыцці ўдзельнічалі ў пілігрымцы да святых месцаў.

На прэс-канферэнцыі ў рэзідэнцыі польскага епіскапату выступіў Славамір Каняста, суарганізатар начной пілігрымкі з горада Медневіцы ў святыню Непакалянава. Ён распавёў пра намеры пілігрымаў: "Падчас гэтай пілігрымкі мы асабліва молімся пра абнаўленне нашых сем'яў. Мы ходзім ужо пяць гадоў. Група з 200-300 пілігрымаў праходзіць пешшу 21 км. Мы молімся на Святым Ружанцы і вяночкам да Божай Міласэрнасці, праводзім канферэнцыі, удзельнічаем у Крыжовым шляху, у той час як група ў Непакалянаве моліцца ўсю ноч у святыні".

Са свайго боку Міхал Каноўнік, прэзідэнт асацыяцыі "Лічбавая Польшча", распавёў пра адмысловы мабільны дадатак "Bonafide", які ўдзельнікі 28 дыяцэзіяльных пілігрымак у Чэнстахову усталююць на свае смартфоны. Новае прыкладанне ўтрымлівае шмат карыснай інфармацыі для пілігрымаў на шляху да найважнейшага духоўнага цэнтра Польшчы.

***Віктар Уладзіміраў***
*Руская рэдакцыя*
*Vatican News*

*Пераклад*
*на беларускую мову*
*Змітра Лупача*

# Дэкрэты біскупа Алега Буткевіча па персанальных зменах у дыяцэзіі



**Біскупам Віцебскім Алегам Буткевічам выдадзены наступныя дэкрэты па персанальных зменах у Віцебскай дыяцэзіі. Дарагім святарам і дыякану шчырая ўдзячнасць за працу ў папярэдніх парафіях. Жадаем Божага бласлаўлення ў паслузе на новым месцы.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *канцлер*

### Дэкрэты Біскупа Віцебскага:

■ **дк. Алег Зямчонак** з дня 28.04.2019г. накіраваны ў парафію Беззаганнага Сэрца Марыі ў Оршы.

■ **кс. Павел Кнурэк** з дня 12.05.2019г. вызвалены з пасады пробашча парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску, адміністратара парафіі св. Падрэ Піа ў Лёзне і ад абавязкаў экзарцыста Віцебскай дыяцэзіі.

■ **кс. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** з дня 31.05.2019г. вызвалены з пасады парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне і дэкана Шаркаўшчынскага дэканата, з дня 01.06.2019г. накіраваны на душпастырскую дапамогу ў парафію св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Паставах.

■ **кс. Максім Бачарнікаў SCJ** з з днём 01.06.2019г. прызначаны пробашчам парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне.

■ **кс. Ян Пугачоў** з дня 01.06.2019г. прызначаны дэканам Шаркаўшчынскага дэканата.

■ **кс. Юрый Жаўняровіч** з дня 03.06.2019г. прызначаны віцэ-дэканам Браслаўскага дэканата.

■ **кс. Віктар Місевіч** з дня 16.06.2019г. вызвалены з пасады адміністратара парафіі св. Уладзіслава ў Віцебску.

■ **а. Віктар Жук SJ** з дня 16.06.2019г. прызначаны пробашчам парафіі св. Уладзіслава ў Віцебску.

■ **кс. Андрэй Кулік** з дня 23.06.2019г. вызвалены з пасады пробашча парафіі Унебаўшэсця Пана ў Дзеркаўшчыне і з дня 23.06.2019г. прызначаны пробашчам парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Мёрах, а таксама пробашчам парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзісне; з дня 23.06.2019г. прызначаны дэканам Мёрскага дэканата.

■ **кс. Кшыштаф Мянкіна** з дня 23.06.2019г. вызвалены з пасады пробашча парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Мёрах.

■ **кс. Валерый Орсік** з дня 23.06.2019г. вызвалены з пасады адміністратара парафіі Беззаганнага Сэрца Марыі ў Оршы і парафіі Маці Божай з Люрд у Барані і з дня 23.06.2019г. прызначаны пробашчам катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску і Святога Айца Піа ў Лёзне; з дня 23.06.2019г. прызначаны дэканам Віцебскага дэканата.

■ **дк. Алег Зямчонак** з дня 23.06.2019г. накіраваны ў парафію Езуса Міласэрнага ў Віцебску.

■ **кс. Антон Лагунёнак** з дня 23.06.2019г. вызвалены з пасады адміністратара парафіі Святой Тройцы ў Канстанцінаве і парафіі св. Юзафа ў Парыжы і з дня 23.06.2019г. прызначаны пробашчам парафіі Святога Антонія ў Віцебску.

■ **кс. Вячаслаў Барок** з дня 23.06.2019г. вызвалены з пасады адміністратара парафіі св. Антонія ў Віцебску.

■ **кс. Леанід Мозгель** з дня 23.06.2019г. вызвалены з пасады адміністратара парафіі Маці Божай Фацімскай у Павяцці і парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Шкаплернай у Ідолце; з дня 23.06.2019г. прызначаны пробашчам парафіі Унебаўшэсця Пана ў Дзеркаўшчыне.

■ **кс. Андрэй Таўрук** з дня 23.06.2019г. вызвалены з пасады вікарыя парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Мёрах і з дня 23.06.2019г. прызначаны пробашчам парафіі Святой Тройцы ў Канстанцінаве і парафіі св. Юзафа ў Парыжы.

■ **кс. Аляксандр Дулінец** з дня 23.06.2019г. вызвалены з пасады вікарыя парафіі св. Язафата Кунцэвіча ў Расонах і з дня 23.06.2019г. прызначаны вікарыем парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Мёрах.

■ **кс. Вячаслаў Адамовіч** з дня 23.06.2019г. вызвалены з пасады адміністратара парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзісне і з дня 23.06.2019г. прызначаны пробашчам парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Шкаплернай у Ідолце і парафіі Маці Божай Фацімскай у Павяцці.

■ **кс. Уладзімір Шымковіч** з дня 23.06.2019г. прызначаны пробашчам парафіі Беззаганнага Сэрца Марыі ў Оршы і парафіі Маці Божай з Люрд у Барані; з дня 23.06.2019г. прызначаны дэканам Аршанскага дэканата.

■ **кс. Дзмітрый Занямонскі OMI** з дня 01.07.2019г. прызначаны вікарыем парафіі Маці Божай Фацімскай у Шуміліне і парафіі св. Вінцэнта дэ Поль у Обалі.

■ **кс. Станіслаў Вашкевіч SAC** з дня 20.08.2019г. атрымаў дазвол на цэлебрацыю сакраманту пакаяння на тэрыторыі Віцебскай дыяцэзіі на час прыналежнасці да палатынскай супольнасці ў Талачыне.

## Міністэрства замежных спраў:
# “Мы чакаем кіраўніка Рыма-Каталіцкай Царквы з візітам у Рэспубліку Беларусь”

**27 чэрвеня, напярэдадні ўрачыстасці святых Пятра і Паўла, Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр даў прыём з нагоды шостай гадавіны пантыфікату Папы Францішка, на якім прысутнічалі прадстаўнікі дзяржаўных уладаў Беларусі і дыпламатычнага корпусу ў нашай краіне.**

З прывітаннем ад імя ўраду да прысутных звярнуўся намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Алег Краўчанка. У адказ на прамову Апостальскага нунцыя Габара Пінтэра прадстаўнік дзяржаўных уладаў адзначыў высокую ступень зацікаўленасці беларускага боку ў далейшым плённым развіцці адносінаў са Святым Пасадам, якія паспяхова працягваюцца ўжо больш за чвэрць стагоддзя.

“Мы высока цэнім намаганні Папы Францішка, скіраваныя на ўмацаванне міжканфесійнай згоды, забеспячэнне паразумення паміж народамі. Нам блізкія ідэі яднання і згуртаванасці, да якіх звяртаецца Папа Францішак і якія ўвасаблялі на сваім шляху святыя апосталы Пётр і Павел”, – падкрэсліў Алег Краўчанка.

Прадстаўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства пры гэтым звярнуў увагу на аднолькавыя пазіцыі Беларусі і Святога Пасаду ў разуменні сацыяльнай справядлівасці і традыцыйных каштоўнасцяў. Пры гэтым Алег Краўчанка выказаў спадзяванне на далейшае развіццё супрацоўніцтва, якому ўласцівыя павага і давер. Намеснік міністра сказаў і такія знамянальныя словы:”Мы чакаем кіраўніка Рыма-Каталіцкай Царквы з візітам у Рэспубліку Беларусь”.

Выказаўшы на заканчэнне сваёй прамовы пажаданне моцнага здароўя Папу Францішку, беларускі дыпламат пажадаў таксама ўсім прысутным міру, шчасця і дабрабыту.

*Фота Віталя Палінеўскага*
*Catholic.by*





## На зажынках у Ваўкавыскім раёне каталіцкі і праваслаўны святары блаславілі камбайны

**З пачаткам уборачнай кампаніі, перш чым распачнецца жніво, у многіх вёсках традыцыйна ладзяць зажынкі. Часта запрашаюцца таксама святары, каб разам памаліцца і каб яны маглі блаславіць хлебаробаў на працу.**

13 ліпеня філіял "Ізабэлінскі Дом культуры" сумесна з супрацоўнікамі філіяла "Мацвееўскі Дом культуры" правялі абрад "А ў нас сёння зажыначкі!"

Асноўным сімвалам зажынак заўсёды з'яўляецца сноп-прыгажун, зжаты сярпамі і працавітымі рукамі жанчын-жнеек. І зжаць першы зажыначны сноп – сімвал багатага ўраджаю, хлебаробчага году – былі запрошаны жнейкі.

Таксама прысутнічалі каталіцкі і праваслаўны святары, якія на пачатак добрай справы прачыталі малітву і акрапілі святой вадой збожжаўборачныя камбайны і экіпажы. Каталіцкі Касцёл прадставіў пробашч парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Нястомнай Дапамогі ў Ізабэліне кс. Генадзь Кухарэвіч.

"Блаславі, Божа, жыта зжаці і надвор'е добрае даці!" Менавіта так прамаўлялі ў даўнія часы нашы продкі перад тым, як прыступіць да ўборкі збожжа. Яны праводзілі абрад зажынак – свята ў гонар збору новага ўраджаю.

На ўскрайку ячменнай нівы каля вёскі Мацвееўцы радком пашыхтаваліся экіпажы хлебаробаў са сваімі камбайнамі, гатовыя да чарговай уборачнай кампаніі. І каб уборка прайшла на належным узроўні, без затрымак і страт, у аптымальны тэрмін, у гаспадарцы вырашылі аддаць належнае даўняму звычаю", – паведамляе Ваўкавыскі раённы Цэнтр культуры.

*grodnensis.by*



**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

**Пакой для малітвы**

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакраментальная паслуга, размова, кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298



# Апостальскі нунцый цэлебраваў Імшу ў Тракелях

**13 ліпеня ўрачыстасці ў санктуарыі Маці Божай Каралевы нашых сем'яў у Тракелях завяршыліся святой Імшой, якую ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр.**

■ **кс. Юрый Марціновіч**, *тэкст;* **Вольга Сяліцкая,** *фота grodnensis.by*

У Імшы ўдзельнічалі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі і Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек. На Эўхарыстыі прысутнічалі шматлікія пілігрымы з нашай краіны і з замежжа. Многія прыбылі ў пешых пілігрымках.

Прысутнічалі таксама святары, якія раней служылі ў Гродзенскай дыяцэзіі, прыбыўшы з Польшчы, каб атуліць душпастырскай апекай парафію на Гродзеншчыне і з вялікай руплівасцю служыць Касцёлу, які адраджаецца. Гэта ксёндз-канонік Павел Галінскі, які 13 гадоў служыў у Тракельскай парафіі і санктуарыі, і ксёндз-канонік Раман Катлімоўскі, які з самага пачатку існавання тракельскага санктуарыя праводзіў малітоўныя чуванні і 27 гадоў выкладаў у Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

На ўрачыстасці прысутнічалі таксама прадстаўнікі мясцовай улады і дыпламатычнага корпусу.

Вітаючы ўдзельнікаў літургіі, асабліва Апостальскага нунцыя, гаспадар святкаванняў біскуп Аляксандр Кашкевіч адзначыў, што яго прысутнасць набліжае асобу Папы Францішка, якога так любяць і чакаюць у Беларусі вернікі, у прыватнасці Гродзеншчына.

Біскуп падкрэсліў, што для нунцыя гэта нагода прыглядзецца да вернікаў і сем'яў дыяцэзіі, якія перад літургіяй аднавілі сужэнскія абяцанні, запрашаючы зноў у сваё жыццё Бога.

У гаміліі арцыбіскуп Габар Пінтэр адзначыў, што вера Панны Марыі, Яе гатоўнасць адказаць на заклік Бога можа стаць прыкладам, святлом на жыццёвым шляху нашых сем'яў. Ён звярнуў увагу на тры Яе паставы: Марыя, якая слухае, Марыя, якая крочыць, Марыя, якая сустракаецца.

Адносіны ў сям'і, заўважыў іерарх, таксама будуюцца на слуханні. "Слухаць ніколі не бывае проста, бо гэта патрабуе адрачэння ад сябе, ад жадання заўсёды мець рацыю. Таму часам бывае зручней рабіць выгляд, што мы глухія", – дадаў ён.

"Марыя, пачуўшы Звеставанне Анёла, не застаецца на месцы, прывязанай да выгодаў і камфорту, але ідзе… Мы таксама збіраемся ў пілігрымках, пераймаючы Яе прыклад, каб прайсці шлях, які патрабуе намаганняў, але які прыносіць багаты плён ласкаў. (…) Маці Божая ведае нашыя шляхі і спадарожнічае нам. Спазнаўшы ўсе цяжкасці, Яна бярэ нас за руку, асабліва тады, калі ў дарозе сустракаюцца нягоды", – адзначыў арцыбіскуп.

"Трэба разумець, што ідэальных сем'яў не існуе. Мы не мусім баяцца недасканаласцяў, ранаў, канфліктаў. Мы павінны навучыцца сустракацца з імі тварам у твар і адважна іх вырашаць. Таму сям'я, у якой, нягледзячы на слабасці і грахі, пануе любоў, становіцца школай прабачэння", – падкрэсліў прадстаўнік Святога Айца.

"Наступная пастава Марыі – гэта сустрэча, – працягваў арцыбіскуп. – Марыя сустракаецца з Альжбетай, якая ўшаноўвае Яе, таму што Яна паверыла. Сям'я таксама нараджаецца з сустрэчы з іншым, каб рэалізаваць Божы план, у якім ужо няма "я" і "ты", але ёсць "мы"".

"Марыя слухае, ідзе, сустракаецца і шчаслівая, бо нясе штосьці большае за сябе – Бога. Не будзем жа баяцца і мы несці Бога іншым, найперш, уласным сем'ям", – заклікаў іерарх.

На заканчэнне сёлетняй урачыстасці ў гонар Найсвяцейшай Панны Марыі, калі адзначалася 25-годдзе абвяшчэння парафіяльнай святыні ў Тракелях Дыяцэзіяльным санктуарыем Маці Божай Каралевы нашых сем'яў, 10-годдзе каранацыі цудатворнага абраза Маці Божай Тракельскай і 210-годдзе пабудовы мясцовага касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі, кусташ санктуарыя кс. Юрый Бяганскі, які за год служэння ў Тракелях вельмі змяніў у лепшы бок знешні выгляд святыні і навакольную тэрыторыю, шчыра падзякаваў усім за ўдзел у святкаваннях.

# Новы касцёл асвечаны







**Храм у гонар святых Пятра і Паўла асвяціў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Урачыстасць адбылася ў нядзелю, 29 чэрвеня, калі Каталіцкі Касцёл адзначае Дзень згаданых апосталаў.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Гэтай падзеі вернікі з Бешанковічаў чакалі вельмі даўно. Парафія аднавілася тут амаль два дзесяцігоддзі таму. Першым святаром быў ксёндз Казімір Гваздовіч. Ён успамінае, як першы раз прыехаў сюды ў 2000 годзе разам з біскупам Уладзіславам Бліном:

– Калі мы прыехалі сюды з біскупам, ён кажа, што тут павінен быць касцёл. Я адказаў: “Цікава, а калі?” На што біскуп заўважыў: “Не істотна калі, але павінен быць”. І вось цяпер ён ёсць.

Для вернікаў Бешанковіцкай парафіі асвячэнне касцёла стала чаканай і радаснай падзеяй.

– Сённяшні дзень мы чакалі вельмі даўно, вельмі хваляваліся і вельмі рады, што ён нарэшце настаў, – дзеліцца сваімі ўражаннямі Марыя Любачка. – У нашай парафіі даўняя гісторыя, але яна пачынала траціцца ў часе. Дзякуючы таму, што ў нас адбылося аднаўленне нашай парафіі і нашага касцёла, гэта гісторыя пачынае свой новы адлік.

Каталіцкая парафія ў Бешанковічах з’явілася яшчэ ў XVII стагоддзі, калі ў 1650 годзе Казімір Сапега пабудаваў тут касцёл. У тыя часы парафія налічвала больш за тысячу вернікаў. У 1876 годзе на месцы старога касцёла пабудавалі вялікі драўляны храм, які ў сярэдзіне XX ст. разбурылі камуністычныя ўлады.

У тым, што аднаўляць парафію прыехаў менавіта кс. Казімір, сам святар бачыць Божы знак:

– Я маю імя Казімір, а ў маёй сястры ёсць сын Рафаіл. А касцёл у Бешанковічах, які бальшавікі ўзарвалі, насіў тытул Казіміра і Рафаіла.

Урачыстасці распачаліся аб адзінаццатай гадзіне перад уваходам у храм. Акрамя вернікаў з Бешанковічаў, на асвячэнне прыехала шмат гасцей з Віцебска, Улы, Паставаў, Камай, Ваўкалаты і іншых парафій. Усе чакалі біскупа Алега перад зачыненымі дзвярыма касцёла.

Калі ўрачыстая працэсія са святарамі і міністрантамі падышла да храма, вернікі прывіталі іерарха хлебным караваем. Біскуп звярнуўся да прысутных з кароткім словам, у якім адзначыў важнасць гэтай падзеі для Бешанковічаў і ўсяго Каталіцкага Касцёла.

Потым пробашч парафіі кс. Аляксандр Півавар уручыў ардынарыю сімвалічны ключ ад святыні. Біскуп Алег тройчы ўдарыў ім у дзверы храма, пасля чаго ўрачыстая працэсія ўвайшла ў касцёл.

На самым пачатку ўрачыстай святой Імшы біскуп асвяціў ваду, якой былі акроплены алтар, сцены храма і самі вернікі. Робіцца гэта на знак пакаяння і як успамін хросту, а таксама гэта ёсць знакам, што будынак, які збудаваны з матэрыялаў для свецкага ўжытку, з тае пары становіцца домам Божым.

Сімвалічна, што разам з біскупам у набажэнстве ўдзельнічала дванаццаць святароў. Акрамя пробашча парафіі кс. Аляксандра Півавара, на ўрачыстасць прыбылі кс. Казімір Гваздовіч з Літвы, які быў першым пробашчам у Бешанковічах, кс. Павел Самсонаў з Дунілавічаў, які таксама пэўны час працаваў у гэтай парафіі, кс. Славамір Самковіч з Пагошчы, які тут працаваў і пры якім былі зробленыя асноўныя будаўнічыя работы, кс. Алег Півавар з Ваўкалаты, які з’яўляецца братам кс. Аляксандра, кс. Мікалай Ліпскі з суседняй Чашніцкай парафіі, кс. Андрэй Аніскевіч, дырэктар віцебскага CARITAS,



# ў Бешанковічах

кс. Яцэк Хутман з Камай – роднай парафіі кс. Аляксандра Півавара, кс. Валерый Орсік з Віцебска, які ў мінулым годзе завяршыў будаўніцтва касцёла ў Оршы, кс. Уладзімір Шымковіч, які зараз працуе ў Оршы і Дуброўне, кс. Анджэй Бульчак з Паставаў, які цяпер будуе там новы храм, кс. Эдуард Сінкевіч з Паставаў. Трэба адзначыць, што ў свой час пробашчам парафіі ў Бешанковічах працаваў і кс. Алег Буткевіч, цяперашні віцебскі ардынарый.

У гаміліі біскуп Алег найперш падзякаваў усім святарам, якія працавалі тут, у Бешанковічах. Падзяку ад ардынарыя атрымаў і кс. Аляксандр, каторы зараз тут служыць.

Іерарх адзначыў, што Бог вяртае сваю прысутнасць нават там, дзе чалавек першапачаткова не хацеў, каб яна там была. Вельмі важна, што ў Бешанковічах пабудаваны новы храм, але яшчэ важней, што тут адбудаваны жывы касцёл, касцёл з людскіх сэрцаў.

– Бог не патрабуе нейкага асобнага для сябе месца, – падкрэсліў біскуп Алег, – бо Ён не змесціцца толькі ў мурах. І гэта не столькі патрэбна Яму, колькі патрэбна нам.

Ардынарый звярнуў увагу на важнасць алтара ў храме як стала Божага:

– Праз колькі хвілін адбудзецца асвячэнне алтара. Алтар – гэта стол Божы, дзе мы прымаем той хлеб, які ўмацоўвае нас на дарозе да неба. Гэта той хлеб, які нас непасрэдна яднае з Богам, з якога мы праз сваё сэрца прымаем Езуса Хрыста, хлеб, праз які ў нашай душы адбудоўваецца Божае Валадарства.

Біскуп адзначыў, што гэта якраз тое, за што аддалі свае жыцці апосталы Пётр і Павел, і коратка нагадаў старонкі з іх жыцця.

Далей ардынарый адзначыў, што кожны храм нагадвае нам: мы самі павінны быць святыняй Духа Святога. Іерарх параўнаў гэты прыгожы белы касцёл з буслом, якога лічаць сімвалам Беларусі. Бусел, калі ляціць, то сваім выглядам нагадвае нам крыж. А два крылы – гэта нашы дзве традыцыі – усходняя і заходняя, якія заўсёды суіснавалі на беларускай зямлі. Гэты сімвал паказвае, што наша вера – адзіная, нягледзячы на людскія падзелы. І хрысціянам не трэба варагаваць між сабой, а знаходзіць агульныя кропкі для супрацоўніцтва.

Напрыканцы біскуп звярнуўся да вернікаў з заклікам памятаць словы арханёла Міхала: "Калі з намі Бог, то хто супраць нас?!"

Перад намашчэннем алтара вернікі разам са святарамі памаліліся Літаніяй да ўсіх святых. Пасля гэтага біскуп намасціў алтар святым алеем. У гэты час кс. Аляксандр Півавар намасціў чатыры адмысловыя знакі ў выглядзе крыжоў, якія змешчаныя на сценах храма.

Затым на алтар была пастаўленая кадзільніца, у якую біскуп засыпаў пахучыя зёлкі. Агонь кадзіла нагадвае нам тое полымя, якое гарэла ў кусце перад Майсеем, калі з ім размаўляў сам Бог. Іерарх акадзіў алтар, а затым і ўвесь храм.

Пазней кс. Аляксандр атрымаў з рук біскупа запаленую свечку, ад якой у сваю чаргу запалілі і свечкі перад алтаром. Затым алтар заслалі белым абрусам, неўзабаве распачалася святая Эўхарыстыя.

Пасля таго, як вернікі прынялі Камунію, яны ўсе разам праспявалі гімн "Цябе, Бога, праслаўляем".

Перад заканчэннем Імшы парафіяне падзякавалі біскупу за асвячэнне касцёла, а пробашчу кс. Аляксандру Півавару – за паспяховае заканчэнне будаўніцтва. Кс. Аляксандр таксама выказаў падзяку ўсім тым, хто спрычыніўся да будаўніцтва, а таксама тым вернікам і святарам, што прысутнічалі ў храме ў гэты знакавы дзень. Асаблівая падзяка ад пробашча і біскупа была выказаная сёстрам-уршулянкам, каторыя ў свой час працавалі ў Бешанковічах, і асабіста сястры Чаславе, якая непасрэдна прысутнічала на ўрачыстасці.

Напрыканцы набажэнства быў падпісаны Дэкрэт аб асвячэнні святыні. Яго падпісалі біскуп Віцебскі, пробашч парафіі, а таксама святары, якія раней працавалі ў Бешанковічах і ў гэты дзень прысутнічалі на ўрачыстасці.

А на завяршэнне набажэнства ўсіх благаславіў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

– Для мяне гэта вялікая радасць. У свой час было цяжка і не верылася. Але Бог свае планы рэалізуе, нягледзячы на людскія абмежаванні, цяжкасці і складанасці. Таму сёння я адчуваю радасць і ўдзячнасць. Удзячнасць людзям, якія тут працавалі, ахвярадаўцам, праз якіх паўстаў гэты касцёл. Хаймусім адудзячыць Бог, – падзяліўся сваімі меркаваннямі іерарх. Наконт будучыні парафіі ён выказаўся так:

– З надзеяй гляджу ў будучыню. Сёння было шмат людзей. У параўнанні з той сітуацыяй, калі напачатку прыходзіла пара чалавек... Як хтосьці жартаваў, што на святой Імшы быў ксёндз, парафіянка і кот, але зараз гэты касцёл амаль запоўнены парафіянамі. Таму гэта дае надзею, што парафія жывая, і яна будзе жыць і развівацца.

Што ж, хай Бог дапамагае гэтай парафіі! Веры ёй, надзеі і любові!



## Маскоўскія католікі здзейснілі працэсію ва ўрачыстасць Цела і Крыві Хрыста

**23 чэрвеня па вуліцах Масквы прайшла ўрачыстая працэсія ў гонар Дня Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста (Corpus Christi).**

**Вольга Хруль**, *тэкст і фота; рускатолік.рф*

Свята пачалося святой Імшой у Катэдральным саборы Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, якую цэлебраваў Апостальскі нунцый у Расіі Арцыбіскуп Чэлестына Мільёрэ.

Па шляху працэсіі вернікі зрабілі чатыры прыпынкі для чытання Евангелля, малітваў і спеваў. Алтары падрыхтавалі прадстаўнікі каталіцкіх парафій і абшчын горада: парафія святога Рыгора Асветніка Армянскай Каталіцкай Царквы, парафія святых апосталаў Пятра і Паўла, парафія святой Вольгі, парафія Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

У календары Каталіцкага Касцёла свята Божага Цела і Крыві Хрыста адзначаецца ў першы чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы.

У Расіі, як і ў многіх іншых краінах, дзе гэты дзень не з'яўляецца выхадным, святкаванне афіцыйна пераносіцца на найбліжэйшую нядзелю.



# Там, дзе хрысціўся Міндоўг і была першая ў Вялікім княстве Літоўскім каталіцкая святыня: біскуп Кашкевіч блаславіў новы касцёл



Кс. Юрый Жэгарын укладае грамату "Дзеля памяці ў наступных пакаленнях" у памятны знак

**29 чэрвеня, ва ўрачыстасць святых апосталаў Пятра і Паўла, у Любчы, што на Навагрудчыне, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч з удзелам біскупа Пінскага Антонія Дзям'янкі блаславіў новы касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса і Святой Марыі ад Езуса Укрыжаванага.**

■ **Мікола Гракаў**, *тэкст;* **Віталь Палінеўскі**, *фота Catholic.by*

Паводле некаторых звестак, менавіта ў Любчы ў Нёмане быў ахрышчаны кароль Міндоўг. Тут таксама было заснавана першае на нашых землях біскупства і закладзена першая каталіцкая святыня.

Урачыстыя мерапрыемствы распачаліся каля ўваходу ў парк перад Любчанскім замкам. На іх завітаў… сам кароль Міндоўг, які ў 1253 г. прыняў тут хрост.

У гэтым гістарычным месцы з удзелам пробашча навагрудскай парафіі святога Міхала Арханёла і любчанскага душпастыра кс. Юрыя Жэгарына быў адкрыты памятны знак, у які святар уклаў грамату "Дзеля памяці ў наступных пакаленнях".

"На гэтым месцы шмат стагоддзяў таму каля Любчанскага замка стаяла каталіцкая святыня – адна з першых у Вялікім Княстве Літоўскім,– сказана ў дакуменце. <...> Памяць пра свае карані, пра мінулае, дае надзею на будучыню і можа захаваць ад памылак наступныя пакаленні.

Вернікі гэтага месца ўзносяць свае малітвы, каб вера і вернасць Езусу ніколі не зніклі і не аслаблі ў Любчы і Беларусі, каб паўстала яшчэ больш святыняў і каб яны былі цэнтрамі духоўнага жыцця і духоўнага адраджэння нашай Бацькаўшчыны".

Гэтае пасланне нашчадкам было закладзена ў асаблівы дзень, калі ў старажытным мястэчку на беразе бацькі-Нёмана Гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч блаславіў новы касцёл, пабудаваны намаганнямі мясцовых парафіянаў пад кіраўніцтвам ксяндза Юрыя Жэгарына і з дапамогаю вялікай колькасці людзей добрай волі. Менавіта яны, гэтыя дабрадзеі, часта далёкія геаграфічна, але блізкія сэрцам, духоўна пашырылі парафіяльную сям'ю невялікага мястэчка і дапамаглі ёй узвесці на хвалу Пана новую прыгожую святыню.

Папярэдні касцёл у Любчы быў зачынены і знішчаны 80 гадоў таму, у 1939 годзе. Пасля з'яўлення рэлігійнай свабоды вернікі доўгі час маліліся ў старым доме, абсталяваным пад капліцу, які з часам стаў зусім непрыдатным для Божага культу і пагражаў вось-вось разваліцца.

На парозе прыгожай і светлай новай святыні мясцовыя вернікі шчыра і цёпла прывіталі ўсіх сваіх дарагіх гасцей, передусім свайго пастыра біскупа Аляксандра Кашкевіча, а таксама свайго колішняга душпастыра біскупа Пінскага Антонія Дзям'янку, які стаяў ля вытокаў адраджэння парафіяльнага жыцця ў Любчы пасля цёмнай ночы дзесяцігоддзяў атэістычнага савецкага рэжыму.

Нездарма менавіта біскуп Антоні прамовіў Божае слова падчас урачыстай святой Імшы, цэлебрацыю якой узначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч. На яе пачатку пастыр Гродзенскай дыяцэзіі сардэчна падзякаваў усім, хто прычыніўся да прыемнай Богу, святой справы пабудовы святыні і акрапіў асвячонай вадой яе рукатворныя сцены разам з нерукатворнай святыняй Містычнага Цела Хрыста, якая складаецца з жывых людзей, мясцовых вернікаў.

У дапаўненне да абраду бласлаўлення біскуп Антоні Дзям'янка акадзіў святыню, і прыемны водар разам з малітвамі любчанскіх вернікаў і іх шчырымі сэрцамі ўзнёсся ўгору, да нябеснага трону Найвышэйшага Бога.

"Вы ўжо не чужыя і не прыхадні, але суграмадзяне святых і дамачадцы Бога" (Эф 2, 19). Гэтымі словамі святога апостала Паўла звярнуўся іерарх у сваёй гамііліі да ўдзельнікаў гістарычнай падзеі. "Вы, дарагія браты і сёстры, з'яўляецеся дамачадцамі, бо Святы Бог у Найсвяцейшай Тройцы адзіны сярод вас тут, у Любчы, мае свой дом. Касцёл – гэта Божы дом. Гэта для нас вялікая радасць", – дадаў біскуп Антоні.

Дзякуючы сваёй фенаменальнай памяці сённяшні пастыр Пінскай дыяцэзіі захаваў у сэрцы ўсіх тых, для каго дзень бласлаўлення святыні ў Любчы стаў асаблівa радасным.

"Радуюцца святары, душпастыры, якія раней прыязджалі з Навагрудка і Усялюба: ксяндзы Януш Карась, Аляксандр Сасноўскі, Аляксандр Баклажэц, усе святары навакольных парафій. Радуецца ў нябёсах і святой памяці айцец Войцех Навачык, які з ГУЛАГу, з Котласа прыбыў на Навагрудчыну і 28 гадоў, ажно да сваёй смерці ў 1984 годзе, падтрымліваў у жыхароў Любчы веру ў Бога ў час ночы атэізму", – сказаў біскуп.

"Калі мы асвячаем касцёл у мясцовасці, дзе раней была разбурана святыня, то нанава перажываем таямніцу ўваскрасення Хрыста. Бо сам Езус Хрыстус, укрыжаваны і ўваскрослы, з'яўляецца краевугольным каменем. Гэта ў Ім уся будоўля расце на святую ў Пана святыню. З Ім і вы таксама ўздымаецеся ў супольным будаўніцтве, каб стаць жытлом Бога ў Духу", – перафразуючы апостала Паўла, сказаў іерарх (пар. Эф 2, 21–22).

⇨







⇨ Акрамя таго, біскуп Антоні нагадаў, што новы любчанскі касцёл асвячаецца ў месцы на беразе Нёмана, дзе ў 1253 годзе адбыўся першы хрост Літвы, які прыняў тут разам са сваімі падданымі кароль Міндоўг.

"Касцёл будзе нагадваць нам пра найбольшую каштоўнасць, якую мы маем, – пра веру. Але яна не статычная, а дынамічная.

Той, хто яе практыкуе праз малітву, вядзе сакраментальнае жыццё, захоўвае пасты, стараецца жыць паводле Божых запаведзяў, дапамагае бескарысліва тым, хто знаходзіцца ў патрэбе, – у тым вера ўзмацняецца. Калі ж аддаць прыярытэт іншым каштоўнасцям, то можа паўтарыцца тое, што стала з Міндоўгам, які праз кароткі час, кіруючыся палітычнай кан'юнктурай, вярнуўся да паганства", – перасцярог пастыр Пінскага Касцёла.

На заканчэнне ён выказаў любчанскім вернікам свае пастырскія пажаданні: "Дарагія браты і сёстры! Жадаю, каб святыня служыла вам як Божы Дом доўгія гады. Каб тут адбываліся хросты, Першыя Камуніі дзяцей, каб вернікі ядналіся тут з Хрыстом у сакраманце пакаяння, каб заключаліся сужэнствы, каб прымалі сакрамант намашчэння хворыя. Няхай тут з моцаю прамаўляецца Божае слова ў катэхезах, настаўленнях, гаміліях, казаннях. Гэты будынак няхай будзе для вас Домам Божым і брамай да нябёсаў", – завяршыў гамілію біскуп Антоні, зноў перафразуючы Святое Пісанне.

На заканчэнне Эўхарыстыі больш за гадзіну гучалі словы віншавання і падзякі, поўныя шчырай радасці і ўдзячнасці перадусім Богу, Які дазволіў менш чым за два гады пабудаваць цудоўную святыню і такім чынам рэалізаваць тое, у што яшчэ ўзімку 2017 года не надта верылася нават самым аптымістычным з любчанскіх парафіянаў.

Усё, што яны перажылі за гэты час, вылілася ў сапраўдную паэму, якую напісала верніца парафіі з ваколіц Любчы Валянціна Гайшун. Яе твор пачынаецца праўдзівымі і зусім не пафаснымі словамі: "Гісторыю піша не біскуп – гісторыю піша народ".

І далей, без пафасу, з праўдзівым да шчымлівасці рэалізмам распавядае яна, як паступова мясцовы люд з дапамогаю дабрадзеяў будаваў у Любчы касцёл.

Унёсак кожнага быў каштоўны і дарагі ў вачах Бога. Найвышэйшы дакладна ведае і памятае не толькі пра тых, хто ў дзень блаславення святыні атрымаў з рук пробашча кс. Юрыя Жэгарына памятны падзячны дыплом, але і пра ўсіх, хто заклаў у яе будаўніцтва нават найменшую духоўную ці матэрыяльную цаглінку.

Пасля святой Імшы адбылося чэрвеньскае набажэнства перад выстаўленым Найсвяцейшым Сакрамантам. Выстаўленне было зроблена ў новай манстранцы, падараванай Любчанскай парафіі яе даўнімі і вернымі сябрамі з польскага Падляшша.

Так у малітвах і падзяках незаўважна праляцеў час і настаў вечар. Белыя галубы – сімвал Духа Святога і Божага супакою – з рук біскупаў узляцелі ўвысь, але, крыху пакружыўшы, так і засталіся каля новай святыні, перад якою распачалася святочная праграма. На канцэртнай пляцоўцы выступалі творчыя калектывы з Мінска, Навагрудка і Любчы.

Адкрыла творчую частку выступленне мужчынскага хору "Арнамент", які сваім прыгожым спевам аздобіў таксама ўрачыстую літургію.

Нарэшце былі абвешчаны і ўзнагароджаны прызамі пераможцы віктарыны і конкурсу вершаў пра Любчу, якія праводзіліся перад урачыстасцю. Тут жа адбыўся і конкурс печыва любчанаў. Гасцінныя мясцовыя жыхары шчодра і смачна пачаставалі ўсіх гасцей, а народныя майстры правялі выставу-кірмаш традыцыйных вырабаў.





# Біблійныя прарокі

**Хто такія прарокі? Каго Бог выбіраў сабе на служэнне, і што мы ведаем пра іх? Праверце свае веды на гэтую тэму ў новым тэсце Каталіцкага Весніка.**

**1** Хто ў Бібліі ўпершыню быў названы прарокам? (Быц. 20, 7)



**А.** Адам
**Б.** Абрагам
**В.** Ісая

**2** Хто з прарокаў лічыцца аўтарам трох кніг Старога Запавету, а таксама некаторых псалмоў?



**А.** Даніэль
**Б.** Давід
**В.** Саламон

**3** Хто з прарокаў першапачаткова не хацеў выконваць сваё прароцкае служэнне?



**А.** Агей
**Б.** Амос
**В.** Ёна

**4** Некаторыя лічаць гэтага прарока "старазапаветным евангелістам", таму што ў Новым Запавеце налічваецца больш за 40 спасылак на яго кнігу:



**А.** Ісая
**Б.** Ерамія
**В.** Абакум

**5** Хто з прарокаў Старога Запавету ўваскрашаў з мёртвых? (3 Царстваў 17, 22-23)



**А.** Ерамія
**Б.** Ісая
**В.** Ілля

**6** Якія два прарокі былі прысутныя пры Перамяненні Пана на гары Табор?



**А.** Майсей і Ілля
**Б.** Саламон і Давід
**В.** Ілля і Ісая

**7** Які прарок быў сведкам узыходу прарока Іллі на вогненнай калясніцы ў неба? (4 Царстваў 2, 11-12)



**А.** Елісей
**Б.** Міхей
**В.** Малахія

**8** Колькі прароцкіх кніг налічвае Біблія?



**А.** 12
**Б.** 16
**В.** 17

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 12**

# Каляндар на жнівень

**6 жніўня – свята Перамянення Пана.**



Гэтае свята звязваюць з цудам, якое Езус Хрыстус здзейсніў напрыканцы Свайго зямнога шляху перад трыма апосталамі – Пятром, Якубам і Янам. Хрыстус прывёў Сваіх вучняў на гару Табор і адкрыў, што Яму належыць пакутаваць за людзей, памерці на крыжы і ўваскрэснуць. Там Ён перамяніўся перад апосталамі: твар Яго заззяў, а вопратка зрабілася асляпляльна белай. Два прарокі Старога Запавету – Майсей ды Ілля – з'явіліся Госпаду на гары і размаўлялі з Ім. А голас Бога Айца са светлага воблака сведчыў пра Боскасць Хрыста.

Лічыцца, што на гары Табор Езус упершыню паказаў людзям сваю Боскую сутнасць. Вучні ўсвядомілі, што перад імі не проста прарок, але Сам Пан. Свята Перамянення Пана нагадвае вернікам на прыкладзе Езуса Хрыста пра неабходнасць духоўнага перамянення і ўдасканалення. Лічыцца таксама, што гэтае свята звязана са старазапаветным днём асвячэння пладоў. Так, на Усходзе ў пачатку жніўня выспяваюць злакі і вінаград, якія хрысціяне прыносяць у храм для блаславення.

**8 жніўня – успамін святога Дамініка, святара.**



Святы Дамінік, заснавальнік ордэна дамініканаў, нарадзіўся каля 1170 года ў Іспаніі. У 1184 годзе ён паступіў у школу ў Паленсіі, дзе вывучаў "вольныя мастацтвы" і багаслоўе. З юнацтва Дамінік праславіўся незвычайнай дабрынёй (вядома, што ён прадаў свае кнігі, каб выкупіць палонных хрысціян у маўраў). У 1196 годзе ён атрымаў святарскія пасвячэнні і стаў чальцом (з 1201 г. – намеснікам настаяцеля) капітулы рэгулярных канонікаў ў Осме. Аднойчы, падчас дыпламатычнага падарожжа ў Данію праз Паўднёвую Францыю, Дамінік усю ноч правёў у дыскусіі з адным з ерэтыкоў-катараў, спрабуючы пераканаць яго вярнуцца да каталіцкай веры. Пасля таго, як гэты чалавек выракся ерасі, у Дамініку пачала ўзрастаць думка стаць вандроўным тэолагам-прапаведнікам, і ён прысвячае сваё жыццё місіянерскай дзейнасці і сведчанням пра сапраўдны Касцёл Хрыста.

У 1206 Дамінік пры дапамозе біскупа Дыега заснаваў жаночую манаскую супольнасць ў Пруе. З 1209 па 1213 гг. ён прапаведаваў падчас крыжовага паходу супраць ерасі альбігойцаў. За некалькі гадоў плённай працы Дамініку ўдаецца навярнуць шмат падманутых ератыкамі людзей, і вакол яго збіраецца кола аднадумцаў. У 1215 г. яны стварылі жабрачы закон вандроўных прапаведнікаў – дамініканцаў. 22 снежня 1216 г. была апублікаваная була Папы Ганорыя III Religiosam vitam, якая зацвердзіла новы ордэн, галоўнай задачай каторага стала вывучэнне навук і пропаведзь Евангелля. Асноўнымі прынцыпамі дзейнасці закона сталі ўбостваі навука, скіраваныя на абарону чысціні веры Касцёла.

Дамінік памёр 6 жніўня 1221 года ў Балоны (Італія) і ўжо ў 1234 годзе быў далучаны да ліку святых Папам Рыгорам IX. Яго цела спачывае ў дамініканскім кляштары ў Балоны.

**9 жніўня – успамін святой Тэрэзы ад Крыжа (Эдыта Штайн), панны і мучаніцы, апякункі Еўропы.**



Эдыта Штайн нарадзілася 12 кастрычніка 1891 г. у габрэйскай сям'і ў Вроцлаве. Яе бацька памёр, калі Эдыце было толькі два гады. Маці выхоўвала дзяцей у габрэйскай традыцыі, але ўжо ў чатырнаццацігадовым узросце Эдыта лічыла сябе атэісткай. Атрымаўшы атэстат сталасці, яна паступіла ва ўніверсітэт і пачала вывучаць філасофію. Пасля двухгадовага знаходжання на фронце, дзе Эдыта служыла сястрой міласэрнасці, яна вярнулася да філасофіі, але менавіта ў гэты перыяд яе пачалі цікавіць пытанні веры. Аднойчы Эдыта была моцна ўражаная незвычайным даверам да Бога пэўнай жанчыны, муж якой загінуў на вайне, і тады ў Эдыты абудзілася цікавасць да хрысціянства. Зрабіць канчатковы выбар ёй дапамог жыццяпіс св. Тэрэзы Авільскай, прачытаўшы які, Эдыта Штайн ва ўзросце 31 года вырашыла прыняць хрост. Яшчэ праз тры гады яна ўступіла ў ордэн кармелітак у Кёльне. У ордэне Эдыта прыняла імя Тэрэза Бэнэдыкта ад Крыжа.

Будучы законніцаю, яна не спыняе свае заняткі філасофіяй, а таксама выкладае ў дамініканскай школе, вывучае гісторыю філасофскай каталіцкай думкі. Асабліва яе захапляе тэма малітвы ў адзіноце. У сваёй працы "Навука Крыжа" яна піша, што самыя шчаслівыя гадзіны ў жыцці Езуса былі тады, калі ноччу Ён заставаўся сам-насам з Богам Айцом і размаўляў з Ім. Гэтыя гадзіны дазвалялі Езусу аддыхацца пасля дня, праведзенага сярод людзей, і тлуму жыцця... "Нам проста неабходныя такія гадзіны, на працягу якіх мы б у маўчанні ўслухоўваліся ў слова Божае, даючы яму ўздейнічаць на нас". Пасля смерці маці па прыкладзе Эдыты яе сястра Ружа таксама ахрысцілася і ўступіла ў кляштар. Калі нацысты пачалі барацьбу за "расавую чысціню", Эдыта з сястрою перабраліся ў кармеліцкі кляштар у Галандыю, каб не ствараць праблемаў для сясцёр у Кёльне, але і там неўзабаве пачалася "чыстка". Сясцёр Штайн арыштавалі і адправілі ў Асвенцім, дзе яны і загінулі ў газавай камеры 9 жніўня 1942 г. Кармелітка, філосаф і мучаніца Эдыта Штайн была ў 1998 г. кананізаваная Папам Янам Паўлам II, які абвясціў яе апякункаю Еўропы.

**10 жніўня – успамін святога Лаўрэнція, дыякана і мучаніка.**



Паводле падання, Лаўрэнцій паходзіў з Іспаніі. Ён быў дыяканам і служыў пры св. Папу Сіксту II, з якім яго звязвалі блізкія сяброўскія адносіны. 6 жніўня 258 года падчас пераследу цэзара Валяр'яна Папу і чацвярых яго дыяканаў, у тым ліку і Лаўрэнцыя, арыштавалі на набажэнстве ў рымскіх катакомбах Калікста. Папу ў той жа дзень адсеклі галаву (успамін св. Сікста II, Папы і мучаніка, прыпадае на 7 жніўня), а праз чатыры дні мучаніцкую смерць прыняў таксама і Лаўрэнцій: ён быў спалены жывым. Перад смерцю цэзар запатрабаваў у яго выдаць багацці хрысціянаў, на што святы, паказваючы на жабракоў, сказаў: "Вось сапраўднае багацце Касцёла!" Цела святога Лаўрэнція спачывае ў базіліцы, што носіць яго імя і з'яўляецца адным з найважнейшых касцёлаў Рыма, а галава святога – адна з найкаштоўнейшых рэліквій хрысціянства – захоўваецца ў Ватыкане. Святога Лаўрэнція заўсёды ўшаноўвалі і на Захадзе, і на Усходзе, а ў Рыме ён лічыцца трэцім пасля святых апосталаў Пятра і Паўла ў іерархіі культу. Святы з'яўляецца апекуном пажарных, яго заступніцтва просяць пры хваробах скуры, а таксама ад пажараў і мукаў чысца.

**14 жніўня – успамін св. Максімільяна Марыі Кольбэ, святара і мучаніка.**



Святы Максімільян нарадзіўся 8 студзеня 1894 г. у Здуньскай Волі каля Лодзі (Польшча). Вучыўся ў Рыме, меў ступень доктара. У 1918 годзе атрымаў святарскія пасвячэнні ў ордэне францішканаў. З'яўляецца заснавальнікам апостальскага таварыства "Рыцарства Беззаганнай" і рэлігійнага часопіса "Рыцар Беззаганнай". У час акупацыі арыштаваны і вывезены ў канцлагер у Асвенціме. Там ахвяраваў сваё жыццё за бацьку адной сям'і. Памёр у камеры смерці ў ліпені 1941 г. Беатыфікаваны Папам Паўлам VI 17 кастрычніка 1971 г., а Папа Ян Павел II кананізаваў Максімільяна Марыя Кольбэ 10 кастрычніка 1982 г.

**15 жніўня – урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.**

У 1950 годзе Папа Пій XII асаблівым дэкрэтам афіцыйна прыняў дагмат аб цялесным Унебаўзяцці Маці Божай на неба. У гэтым дагмаце адлюстравалася вера, якой спрад-



веку прытрымліваўся Касцёл. У дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі існуе традыцыя ў знак падзякі прыносіць першыя плады нова ўраджаю. У гэты дзень для вернікаў з'яўляецца абавязковым наведванне св. Імшы.

**22 жніўня – свята Маці Божай Браслаўскай, Валадаркі Азёраў.**



Пра касцёл у Браславе ведаюць шматлікія вернікі не толькі Віцебскай дыяцэзіі, але і ўсёй Беларусі. Падставай гэтаму служыць цудадзейны абраз Маці Божай Браслаўскай, які знаходзіцца ў галоўным алтары святыні. 22 жніўня 2009 года браслаўская парафія Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі перажыла велічную і значную падзею – каранацыю папскімі каронамі цудатворнага абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў. Штогод на ўрачыстасць Маці Божай Браслаўскай прыязджае вялікая колькасць вернікаў з усёй Беларусі, каб выказаць Ёй сваю падзяку і пашану.

**24 жніўня – успамін св. Барталамея, апостала.**



*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Выйшаў 100-ы нумар "Каталіцкага Весніка"

**Дарагі чытач!**
**Ты трымаеш 100-ы нумар газеты "Каталіцкі Веснік". Аж не верыцца, што прайшло ўжо больш за восем гадоў ад выхаду нашага першага нумару.**

Коратка ўзгадаем, як усё пачыналася. Ідэя выдаваць газету ў Віцебскай дыяцэзіі ўзнікла ў ксяндза Віктара Місевіча. Я ў сваю чаргу часта задумваўся, чаму ў Віцебскай дыяцэзіі, якая ў 2009 годзе адзначыла сваё дзесяцігоддзе, няма свайго друкаванага выдання. І калі напачатку 2011 года ксёндз Віктар звярнуўся да мяне з прапановай працы ў новай газеце, я з радасцю пагадзіўся.

Але напачатку трэба было ўсю гэтую ідэю аформіць юрыдычна. Дзякуючы Валянціне Адамцовай, юрыдычнай супрацоўніцы курыі, цягам аднаго сакавіцкага дня ўсе неабходныя дакументы былі зробленыя і накіраваныя ў Міністэрства інфармацыі.

Трэба падзякаваць і супрацоўнікам гэтага міністэрства, якія замест месяца, неабходнага па закону для гэтай працэдуры, разгледзелі нашу прапанову цягам двух тыдняў, і першы нумар "Каталіцкага Весніка" паспеў выйсці да велікодных святаў. 5 красавіка 2011 года наша газета атрымала дзяржаўнае пасведчанне аб рэгістрацыі, а першы нумар быў падпісаны ў друк 14 красавіка.

Хочацца выказаць падзяку і Цімуру Берніковічу, тады навучэнцу глыбоцкай гімназіі, які стварыў лагатып газеты. Зараз Цімур ужо паспеў закончыць універсітэт і стаць вядомым айцішнікам, а вынікам яго працы, створанай яшчэ школьнікам, мы карыстаемся да гэтага часу.

У снежні 2012 года быў створаны сайт нашай газеты Catholicnews.by, за якім будучыня нашага выдання. Папяровыя газеты, хочам мы таго ці не, паступова сыходзяць у гісторыю, а выданні масава пераходзяць у Інтэрнэт. Мы ж пакуль не збіраемся закрываць папяровую версію і спадзяёмся праз паўтара года адзначыць дзесяцігоддзе "Каталіцкага Весніка".

Хачу падзякаваць і сваім калегам, з кім даводзіцца разам працаваць і для папяровай, і для электроннай версіі. Гэта Леанід Юрык, наш мастацкі рэдактар, фатограф і апаратар, Марына Сінкевіч, рэдактар сайта і выдатны фатограф, Юрась Бабіч і Алена Пажога, нашы карэктары, Вікторыя Колзун, якая рыхтуе для вас тэсты, каляндар, дзіцячую старонку, якую яна робіць разам з мастачкай Вольгай Будкінай, Марына Ткач, якая працуе на сайце і рыхтуе артыкулы па псіхалогіі і шмат іншых людзей, якія нам дапамагаюць.

Асаблівую падзяку выказваю нашаму галоўнаму рэдактару ксяндзу Віктару Місевічу, які добра арганізаваў нашу працу, заўсёды нас падтрымлівае, а таксама пробашчу парафіі ў Глыбокім ксяндзу Мікалаю Ціхановічу за новае памяшканне рэдакцыі, у якую мы пераехалі два месяцы таму.

Шчыра дзякуем біскупу Віцебскаму Алегу Буткевічу за тое, што заўсёды пра нас памятае і падтрымлівае ў нашай працы.

А напрыканцы дзякуем усім вам, нашыя чытачы, для якіх мы працуем і дзякуючы ахвяраванням якіх магчымы выхад нашай газеты.

Таму выхад сотага нумара – гэта ў першую чаргу ваша свята, з якім вас і віншуем! Будзем і надалей заставацца разам! З Богам!

***Зміцер Лупач***

## На жнівень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Навалукамль)*;

**4 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**5 жніўня** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*;

**7 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Орша)*;

**10 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*, **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*; дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**14 жніўня** – імяніны адзначае **брат Максім Тамковіч OFMCap** *(Докшыцы)*;

**15 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*;

**16 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*, **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Ёды)*;

**17 жніўня** – імяніны адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*;

**18 жніўня** – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*, **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*, **кс. Валерый Марціноўскі** *(Паставы)*;

**21 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Дзмітры Рацько** *(Празарокі)*;

**26 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*;

**28 жніўня** – дзень нараджэння і імяніны адзначае **кс. Аляксандр Дулінец** *(Мёры)*;

**31 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***



Прэзентацыя газеты ў Будславе, 2019 год. *Фота Леаніда Юрыка*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

## Хвала Хрысту!



***Шаноўны ксёндз-пробашч Яўген Міхайлаў!***

*Ад шчырага сэрца віншуем Вас з Днём нараджэння (22 ліпеня) і Днём святарскага пасвячэння (25 ліпеня)!*

*Час хуткаплынны. Вось ужо два гады Вы ўзначальваеце Лучайскую парафію і ўпэўнена ведзяце сваю паству да Божага святла.*

*Жадаем Вам поспехаў у адданай працы, моцнага здароўя, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, Божай міласэрнасці і ласкі для далейшага служэння Хрысту і людзям!*

***З павагай, удзячнасцю і малітвай за Вас, вернікі парафіі св. Юды Тадэвуша, в. Лучай***

## Хвала Хрысту!

*З пачуццём глыбокай павагі мы віншуем шаноўнага **ксяндза Яўгена Міхайлава** з Днём нараджэння (22 ліпеня) і 10-годдзем святарскага пасвячэння (25 ліпеня)!*

*Няхай Добры Бог адорвае Вас, шаноўны ксёндз Яўген, сваім благаслаўленнем і патрэбнымі ласкамі ў штодзённай працы! Хай Езус Хрыстус дзеліцца сваім цярпеннем, а Дух Святы заўсёды крочыць са сваімі дарамі побач! Няхай Маці Божая апякуецца Вамі, душпастырская паслуга хай прыносіць радасць, задавальненне і багаты плён на Вашым працоўным шляху!*

*Няхай у сэрцы заўсёды жывуць вера, надзея і любоў! Жадаем моцнага здароўя, поспехаў, духоўных і фізічных сілаў для служэння Богу і людзям! Дзякуем Вам за абвяшчэння Слова Божага, за цудоўныя казанні, за тое, што ведзяце нас дарогай праўды, павучаеце любіць Бога і бліжняга!*

***Вернікі капліцы Божай Міласэрнасці (аг. Навасёлкі)***

## Віншуем ксяндза Андрэя Бульчака!



*Дасылаем шчырыя віншаванні **ксяндзу Андрэю Бульчаку**, пробашчу парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах, з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначае 28 ліпеня! Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской добразычлівасці і шмат Божых ласкаў на кожны дзень жыцця! Няхай Езус Хрыстус дапамагае ва ўсіх душпастырскіх справах, а асабліва ў будаўніцтве новай святыні, хай нястомна апякуецца Маці Божая, а Святы Дух хай штодзённа адорвае Вас сваімі дарамі! У нашых малітвах просім міласэрнага Айца, каб узнагародзіў шаноўнага пробашча сваімі ласкамі за ўсё дабро!*

***Вернікі парафіі Езуса Міласэрнага***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Генадзь Рэйшаль**! Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння (16 жніўня)!*

*Выказваем Вам вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божай ласкі, душэўнага спакою, радасных дзён, добразычлівых людзей побач!*

***Парафіяне касцёла Маці Божай Шкаплернай у аг. Ёды***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем самыя цёплыя словы віншавання нашаму **ксяндзу Уладзіміру Шымковічу** з нагоды імянін (15 ліпеня).*

*Шчыра жадаем Вам, дарагі ксёндз Уладзімір, шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, моцнага здароўя, душэўнага супакою, доўгіх гадоў жыцця, плёну ў працы на карысць парафіі, духоўных і фізічных сілаў!*

*Дзякуем Вам за ахвярную працу, за шчырую малітву, за Вашу чуласць, сардэчнасць, за Вашу сціпласць!*

*Духоўна мы яднаемся з Вамі, любім Вас і стараемся заўсёды падтрымліваць. Божай дапамогі Вам ва ўсіх справах!*

***Удзячныя вернікі парафіі Маці Божай Фацімскай у Дуброўне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*З сардэчнай цеплынёй і малітоўнай памяццю віншуем **ксяндза Уладзіміра Шымковіча** з Днём нараджэння (7 жніўня)!*

*Ад усяго сэрца жадаем на доўгія гады моцнага здароўя, Божай ласкі, шчодрай Божай дапамогі, жыццёвай разважлівасці, добрых людзей побач! Няхай Добры Бог і Найсвяцейшая Панна Марыя не пакінуць Вас без сваёй апекі, хай прыносяць радасць і суцяшэнне, а агеньчык, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, няхай гарыць усё Вашае святарскае жыццё!*

***Данута Голубева, ад імя ўсіх вернікаў касцёла Святога Айца Піа ў Лёзне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



***Шаноўны ксёндз Аляксандр Півавар!*** *З нагоды Дня нараджэння (7 ліпеня) складаем Вам сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, радасці, плённай душпастырскай працы! Няхай Езус Хрыстус заўсёды і ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая хай ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух хай шчодра адорвае сваімі дарамі!*

*Накіроўвайцеся за Панам з даверам і надзеяй, рабіце ўсё з запалам, цешцеся светам і людзьмі навокал! Няхай агеньчык дабрыні, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы для ўсіх людзей, гарыць усё Вашае святарскае жыццё і ніколі не згасае!*

*Мы памятаем пра Вас у сваіх малітвах!*

*Шчасці, Божа, Вашым бацькам за выхаванне сыноў-святароў!*

***Данута Голубева, ад імя парафіян касцёла Святога Айца Піа ў Лёзне***

## Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншуем з Днём нараджэння (7 ліпеня) нашага паважанага пробашча – **ксяндза Аляксандра Півавара**! Моцнага Вам здароўя, ксёндз Аляксандр, духоўных і фізічных сілаў! Няхай Пан Бог адорвае Вас сваімі ласкамі!*

*Выказваем вялікую ўдзячнасць за працу ў нашай парафіі!*

***З павагай, вернікі капліцы Маці Божай Будслаўскай у в. Кардон (Шумілінскі раён)***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шаноўная рэдакцыя! Мы хочам павіншаваць **ксяндза Мікалая Ліпскага** з Днём нараджэння, які ён адзначае 3 жніўня.*

*Шаноўны ксёндз Мікалай! Прыміце нашы віншаванні. Жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага спакою, Божай падтрымкі ва ўсіх справах, шчырых вернікаў на Вашым шляху! Доўгіх Вам гадоў святарскага служэння людзям і Богу, апекі Маці Божай і анёла-ахоўніка!*

***З павагай, вернікі парафіі Святой Марыі Магдалены ў Навалукомлі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*16 ліпеня наш **пробашч Генадзь Ляўкоў** адзначыў чарговую гадавіну святарства.*

*Сардэчна віншуем яго з гэтай нагоды, жадаем Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і анёла-ахоўніка, дароў Духа Святога, сілы і здароўя для рэалізацыі Божых планаў!*

*Дзякуем за вернасць і адданасць Касцёлу і парафіі, за шчырыя словы навукі, за дабрыню і аптымізм!*

*Нізкі паклон бацькам за выхаванне цудоўнага сына, чалавека і святара!*

***З малітвай і найлепшымі пажаданнямі, вернікі з парафіі Святых Пятра і Паўла, аг. Дрысвяты***

## Хвала Хрысту!



*5 жніўня наш паважаны **пробашч Юрый Жаўнярові́ч** адзначае чарговую гадавіну святарскага пасвячэння.*

*Мы, вернікі Ахрэмаўскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа, складаем самыя найлепшыя пажаданні паўнаты святарскага шчасця, плёну ў душпастырскай працы!*

*Мы шчаслівыя, што маем такога святара! Святар – гэта не прафесія, гэта сэнс жыцця, стан душы, Божае пакліканне!*

*Здароўя моцнага, апекі Божай Маці,*
*Дароў Святога Духа, новых планаў!*
*А Ваша годнасць, дабрыня і святасць –*
*Найлепшы прыклад для парафіянаў!*

***З павагай і ўдзячнасцю ад усіх парафіянаў, Данута Чэркас***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



У зімовы дзень мароз прыгожа малюе на вокнах: сняжынкі ці яловыя лапкі. Неяк раніцай глянула ў акно, а тут будынак – касцёл, нават крыж ёсць. Такі прыгожы, марозам намаляваны, беленькі касцёл. Глядзела мая сям'я і дзівілася, а мне было страшна: думала, што памру ўжо, плакала. Адна бабулька сказала мне, што тут няма нічога дрэннага. Цяпер ведаю, так Езус ішоў да мяне. Ён паказаў мне дарогу да касцёла, дарогу праўды і любові. Цяпер касцёл – маё жыццё. Расплюшчваю вочы пасля сну і кажу: "Добрай раніцы, Святы Дух!" Кладуся спаць са словамі: "Марыя, захавай! Усемагутны, спадзяюся на Цябе!"

***Альдона Сіўко***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – В; 4 – А; 5 – В; 6 – А; 7 – А; 8 – В

# Росіца чакае сваіх пілігрымаў

**Айцы марыяне запрашаюць 2–3 жніўня ў Росіцу на юбілейную сустрэчу, прысвечаную 20-й гадавіне беатыфікацыі мучанікаў Юрыя і Антонія. Таксама сёлета святыня ў Росіцы будзе абвешчана санктуарыем Благаслаўлёных пакутнікаў з Росіцы Віцебскай дыяцэзіі.**




Урачыстасці ў гонар благаслаўлёных святароў-марыянаў, як заўсёды, распачнуцца вечарам у пятніцу. Малітоўная праграма будзе працягвацца ўсю ноч і скончыцца ў суботу святой Імшой а 11-й гадзіне.

Плануецца, што ў Росіцу традыцыйна пойдуць пешыя пілігрымкі. Усе жадаючыя запрашаюцца прыняць у іх удзел:

**Полацк – Росіца** (4 дні) — з 30 ліпеня па 2 жніўня, запіс: **а. Аляксандр Жарнасек MIC, +375 29 713 02 33**;

**Друя – Росіца** (3 дні) — з 31 ліпеня па 2 жніўня, запіс: **а. Канстанцін Гушча MIC, +375 44 495 50 54**.

Прыехаць у Росіцу, якая знаходзіцца ў памежнай зоне, можна, маючы пры сабе пашпарт.

### Праграма ўрачыстасцяў

**2 жніўня, пятніца**

**18.00** – святая Імша для пілігрымаў;
**19.40** – Акафіст (вернікі Грэка-Каталіцкай Царквы);
**20.30** – Ружанец з разважаннямі (Частка радасная). Праводзяць пілігрымы з Друі;
**21.50** – Нешпары за памерлых;
**22.30** – адарацыя, малітва праслаўлення;

**3 жніўня, субота**

**00.00** – урачыстая святая Імша;
**02.00** – працэсія на пляц мучаніцтва і адарацыя Крыжа;
**03.00** – росіцкі Крыжовы шлях;
**06.00** – Гадзінкі да Найсвяцейшай Панны Марыі;
**07.00** – Літургія ўсходняга абраду (вернікі Грэка-Каталіцкай Царквы);
**08.00** – Ютрань;
**09.00** – Ружанец з разважаннямі (Частка балесная). Праводзяць пілігрымы з Полацка;
**10.00** – адарацыя, споведзь;
**11.00** – урачыстая святая Імша Te Deum laudamus.

*Catholic.by*

## Касцёлу ў Далёкіх –80!

1 чэрвеня споўнілася 80 гадоў, як быў асвечаны касцёл у Далёкіх Браслаўскага раёна. 2 чэрвеня ўрачыста святкавалі гэты юбілей парафіяне і ганаровыя госці, сярод якіх быў біскуп Алег Буткевіч, прадстаўнікі з Рыма, духавенства, вернікі з іншых парафій. Па традыцыі ганаровых гасцей сустрэлі хлебам-соллю, які прыняў біскуп.

Адбылася ўрачыстая святая Імша, потым працэсія вакол касцёла. Гучалі віншаванні, быў падрыхтаваны пачастунак на вольным паветры, рабіліся здымкі на памяць. Усе захапляліся, што драўляны касцёл столькі гадоў дзейнічае, не быў зачынены. Касцёл захаваўся, а цагляныя пабудовы знішчылі. Быў час, калі касцёл застаўся без ксяндза, але ніхто не пасягнуў на касцельную маёмасць.

Шмат гаварылі пра захаванне гэтай унікальнай спадчыны для нашчадкаў. Касцёл будаваўся, рамантаваўся на працягу доўгіх гадоў, каб стаць такім прыгожым у абрамленні кветак і экзатычных дрэў і кустоў.

*Ірына Філановіч*



## Пілігрымкі ў Будслаў у лічбах

**2319 пілігрымаў сёлета прыбылі ў Будслаў пешшу і на роварах. Прапануем вашай увазе кожную з 21-ой пілігрымкі ў лічбах з усіх дыяцэзій Каталіцкага Касцёла ў Беларусі: 19 пешых і тры пілігрымкі на роварах.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

**Віцебская дыяцэзія:**

**Браслаў** – 165 км; 6 дзён; 160 удзельнікаў.
**Глыбокае** – 60 км; 3 дні; 150 удзельнікаў.
**Паставы** – 85 км; 3 дні; 138 удзельнікаў.
**Віцебск** *(разам з біскупам Алегам Буткевічам)* – 250 км; 7 дзён; 66 удзельнікаў.
**Бягомль** – 3 дні; 18 удзельнікаў.
**Росіца** – 217 км; 8 дзён; 64 удзельнікі.

**Гродзенская дыяцэзія:**

**Ліда** – 250 км; 9 дзён; 100 удзельнікаў.
**Гудагай** – 154 км; 7 дзён; 91 удзельнік.
**Смаргонь** – 104 км; 6 дзён; 129 удзельнікаў.

**Пінская дыяцэзія:**

**Баранавічы** *(на роварах)* – 23 удзельнікі.
**Баранавічы** – 292 км; 9 дзён; 160 удзельнікаў.

**Мінска-Магілёўская архідыяцэзія:**

**Мінск** – 126 км; 5 дзён; 207 удзельнікаў.
**Мінск** *(пакаянная, на хлебе і вадзе)* – 5 дзён; 68 удзельнікаў.
**Мінск** *(на роварах)* – 3 дні; 45 удзельнікаў.
**Нарач** – 60 км; 3 дні; 217 удзельнікаў.
**Вілейка** – 72 км; 3 дні; 87 удзельнікаў.
**Ракаў** – 130 км; 5 дзён; 68 удзельнікаў.
**Барысаў** (+ Магілёў, Бабруйск) – 115 км; 4 дні; 102 удзельнікі.
**Пузыры** *(сямейная)* – 15 км; 1 дзень; 200 удзельнікаў (з іх 120 дзяцей).
**Бабруйск** *(на роварах)* – 260 км; 4 удзельнікі.
**Маладзечна** – 100 км; 4 дні; 230 удзельнікаў.



# Парафіяльны адпуст у Новалукомлі



**Фэст у гонар святой Марыі Магдалены, імя якой носіць парафія ў Новалукомлі, прайшоў у нядзелю 20 ліпеня.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык,** *фота*

Свята гэтай святой Касцёл адзначае 22 ліпеня. Яшчэ да 2016 года гэта быў абавязковы ўспамін. Змена адбылася па жаданню Папы Францішка, які хацеў такім чынам падкрэсліць ролю не толькі гэтай святой, але і ўсіх жанчын у Касцёле.

На свята сабраліся вернікі парафіі, госці з Шаркаўшчыны, Глыбокага, Лучая і іншых мясцін, якія цалкам запоўнілі святыню. Прыбылі на фэст ксёндз Уладзімір Заянчкоўскі, дэкан Лепельскага дэканату, у які ўваходзіць і новалукомльская парафія, а таксама ксёндз Марэк Казмерчык з Польшчы, які раней працаваў у Беларусі і добра валодае беларускай мовай.

Распачалося богаслужэнне а 14-й гадзіне ўрачыстым уваходам святароў разам з міністрантамі ў храм. Напачатку ўсіх прывітаў пробашч парафіі кс. Мікалай Ліпскі. Ён папрасіў ксяндза Марэка ўзначаліць гэту святую Імшу.

Божае слова на ўрачыстасці прачытаў для вернікаў кс. Уладзімір Заянчкоўскі. Урывак з Евангелля распавядаў пра той момант, калі Марыя Магдалена ў нядзелю пасля ўкрыжавання Езуса прыйшла да магілы і ўбачыла, што камень адсунуты, а магіла пустая.

У сваім слове да вернікаў ксёндз Марэк паразважаў над гэтым урыўкам са Святога Пісання. "Ідзі ж да братоў Маіх і скажы ім...", – кажа ўваскрослы Езус да Марыі Магдалены. Так і мы, адзначыў святар, павінны ісці да людзей і паказваць ім прыклад нашай веры.

У якасці такога прыкладу ён прывёў саміх вернікаў з Новалукомля. Калісьці тут стаяла закінутая кацельня, і ніхто не мог паверыць, што тут паўстане храм. Але, дзякуючы веры людзей, іх працы, гэты касцёл паўстаў тут на хвалу Божую.

"Езус міласэрны, Яго не трэба баяцца, Ён нас чакае," – сказаў святар напрыканцы гаміліі.

Падчас Імшы адбылася працэсія з дарамі, у якой прынялі ўдзел дзеці і моладзь парафіі. Маладыя вернікі паднеслі свечку як сімвал святла Хрыста, хлебны каравай, кветкі, садавіну як сімвал прыгажосці і багацця, што дае нам зямля, а таксама віно, ваду і гостыю.

На заканчэнне богаслужэння адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, вернікі разам са святарамі памаліліся літаніяй да святой Марыі Магдалены. А затым адбылася святочная працэсія вакол святыні, якая закончылася спевам гімна "Цябе, Бога, праслаўляем".

Пасля ўрачыстага благаслаўлення Найсвяцейшым Сакрамантам пробашч парафіі кс. Мікалай Ліпскі выказаў падзяку ўсім, хто ўдзельнічаў у гэтай урачыстасці, дапамагаў яе рыхтаваць, і запрасіў усіх на пачастунак і канцэрт, які адбыўся перад святыняй.

На гэты раз у Новалукомль завіталі артысты Ірына Раманоўская і Алег Сямёнаў, якія парадавалі прысутных сваім спевам.

Напрыканцы фэсту ўсе разам прачыталі малітву "Ойча наш" і атрымалі бласлаўленне адксяндза Мікалая. Ён таксама запрасіў усіх на парафіяльнае свята ў Чашніках, якое распачнецца 3 жніўня ў 15 гадзін.



Ірына Радзевіч





## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае)*, **Мацкевіч С.А.** *(Ракуцї)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Булаўка Л.** *(Ашмяны)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Розель Я.І.** *(Ашмяны)*, **Рагоўскі В.В.** *(Браслаў)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Казімір Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Елізавета Красілевіч** *(Казлоўшчына)*, **Дана Варанько** *(Друя)*, **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае)*, **Даната Казачок** *(Глыбокае)*, **Соф'я Юковіч** *(Сарокі)*, **вернікі з Дуброўна**, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **парафіяне з Ёдаў**, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Ганна Сапель** *(Браслаў)*, **Валянціна Хадалёнак** *(Сталіца)*, **Казімір Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Ганна Анішкевіч** *(Паставы)*, **Бенедзікта Баранава** *(Двор Пліна)*, **Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# ПАЗНАВАЙКА

**Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!**

## БОГ ЗАЎСЁДЫ ВЕРНЫ СВАІМ АБЯЦАННЯМ!

*У гэтым нумары разам з вамі далей працягваем назіраць за жыццём і дзейнасцю аднаго з выбраных Богам прарокаў Майсея. Будзем разважаць над урыўкамі са Святога Пісання: Кніга Выходу 4, 10 – 8,15.*

### №1 заданне

Бог, даручаючы Майсею вялікае служэнне, абяцаў яму Сваю дапамогу і даў яму памочніка, які прамаўляў замест Майсея да фараона і народу. Аб тым, чаму гэта сталася і як, прачытай у **кнізе Выходу 4, 10-16**. А калі разгадаеш наступны рэбус, даведаешся імя чалавека, які дапамагаў Майсею ў яго служэнні.



**АДКАЗ:**

### №3 заданне

Далей Гасподзь пакараў егіпцян нашэсцем жабаў. Аб тым, як гэта адбывалася, прачытай у кнізе Выходу 8, 1-15.

**Знайдзі ўсе памылкі на малюнку і абвядзі іх алоўкам.**



### №4 заданне

Гасподзь Бог заўсёды верны сваім абяцанням. Ён паабяцаў, што вызваліць ізраільскі народ, і Ён гэта здзейсніў. У Бібліі слова "верны" ўжываецца аж 34 разы. Паглядзі, што Біблія кажа пра тое, Які наш Гасподзь: Кніга Другазаконня 7, 9.

**Выпішы па парадку ўсе зялёныя літары з пялёстачак кветачкі, і даведайся, Які наш Гасподзь. Затым кветачку размалюй.**



### заданне №2

Майсей далей намагаўся, каб фараон адпусціў ізраільскі народ. Які наступны цуд здзейсніў Майсей, даведаешся, калі прачытаеш урывак з кнігі Выходу 7, 14-25.

**Знайдзі 7 адрозненняў на малюнках.**





## ПАМЯТАЙ!

**Ад Бога канікул не бывае**



**Малюнак КЛІМОВІЧ Яны 10 год в. Ляскоўка**

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# V Парафіяда дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі пройдзе ў Віцебску

**Яна адбудзецца з 7 па 10 жніўня 2019 года. Яе тэматыка – "Разам да святасці!"**

Спаборніцтвы будуць прысвечаныя святкаванням 20-годдзя заснавання Віцебскай дыяцэзіі, 10-годдзя каранацыі абраза Маці Божай Браслаўскай, 5-годдзя Парафіяды дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі.

Узрост удзельнікаў: 10-17 гадоў, месца правядзення – г. Віцебск.

**ПАРАФІЯДА – ГЭТА ФАРМАЦЫЯ ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ НАШАЙ ДЫЯЦЭЗІІ ПАВОДЛЕ ТРЫЯДЫ: СТАДЫЁН – ТЭАТР – СВЯТЫНЯ.**

Падчас Парафіяды дзеці і моладзь вучацца жывой размове з Богам з дапамогай малітвы, адкрываюць у сабе камандны дух адзінства і ўзаемнай павагі, ствараюць сапраўдную сям'ю Божых дзяцей, імкнуцца не столькі перамагаць, колькі дапамагаць, быць вернікамі і адкрытымі на патрэбы іншых.

Сёлета будзе праводзіцца пятая, юбілейная Парафіяда. З гэтай нагоды плануецца шмат неспадзяванак. Апрача традыцыйных спартыўных (футбол, валейбол, бег, скачкі, шашкі, басейн) і тэатральных спаборніцтваў, у гэтым годзе будзе пашыраны фармат (дартс, шахматы, біятлон (стрэльбы), баскетбол, парны настольны тэніс, гульня: "Што? Дзе? Калі?", танцы, майстэрня).

А яшчэ ў праграме: сустрэчы з беларускімі чэмпіёнамі алімпійскіх і параалімпійскіх гульняў, розныя каталіцкімі гуртамі,экскурсіі,камандныя і асабістыя ўзнагароды, спецыяльныя падарункі. За першае месца каманда атрымае адпачынак і ўдзел у Міжнароднай парафіядзе ў Польшчы і іншыя сюрпрызы. Спецыяльная намінацыя: пастаянны ўдзельнік Парафіяды.

***Арганізатары***

# У Удзеле адбудзецца сустрэча прадстаўнікоў апостальскага руху "Маргарытка"

**На сустрэчу, якая пройдзе ў суботу, 3 жніўня, запрашаюцца ўсе чальцы гэтага руху з усёй Віцебскай дыяцэзіі.**

**Пачатак – аб 11-ай гадзіне.**

У праграме: выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і адарацыя, святая Імша з удзелам біскупа Алега Буткевіча, абед, канферэнцыя, Вяночак да Божай Міласэрнасці, абмеркаванне планаў.

У праграме магчымыя змены. Усім, хто збіраецца браць удзел у гэтай сустрэчы, просьба паведаміць пра свой намер да 30 ліпеня а. Яраславу Банасяку OFMConv па тэл. +375 29 945 70 91 (Velcom).



Падчас I дыяцэзіяльнай сустрэчы. Удзела, 2018 год



# Праграма ўрачыстасцяў у Браславе

**Сёлетняе свята Маці Божай Валадаркі Азёраў адбудзецца 16-17 жніўня пад дэвізам "Марыя – Маці і Валадарка шчаслівага сужэнства".**

Урачыстасці пройдуць у 10-ю гадавіну каранацыі абраза Папскімі каронамі і ў 20-годдзе заснавання Віцебскай дыяцэзіі.

## Праграма ўрачыстасцяў

### Пятніца, 16 жніўня

**18.00** – святая Імша для пілігрымаў з удзяленнем сакраманту Бежмавання.
**19.30** – канцэрт арганнай музыкі.
**20.30** – адарацыйнае набажэнства з канферэнцыяй, канцэрт (моладзь).
**22.30** – Акафіст да святой Багародзіцы (каталікі ўсходняга абраду).
**23.30** – ружанцовая малітва, працэсія са свечкамі.

### Субота, 17 жніўня

**00.00** – святая Імша перад абразом Маці Божай.
**01.00** – паказ фільма, прысвечанага 20-годдзю заснавання Віцебскай дыяцэзіі.
**02.00** – набажэнства Крыжовага шляху.
**03.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту (малітва да Божай Міласэрнасці).
**07.00** – гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Марыі Панны.
**08.00** – святая Імша перад абразом Маці Божай (цэлебруюць святары-юбіляры).
**09.00** – ружанцовая малітва.
**11.00** – галоўная ўрачыстая святая Імша на палявым алтары.

# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасылаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***



Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4362

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2600 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 25.07.2019 г. у 10.36

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь